# Днятроўская СТРОМА

**№ 16** *студзень 2013 г.*

Выдаецца з мая 2012 г.

**ЛІТАРАТУРНА - МАСТАЦКІ І ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ**

**МАГІЛЁЎСКАГА АДДЗЯЛЕННЯ ГРАМАДСКАГА АБ'ЯДНАННЯ «САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ»**


# Юбілей нашага сябра

THE UNION OF BELARUSIAN WRITERS
САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ
WWW.LIT-BEL.ORG





**Сёння Івану Аношкіну – 85!**

21/01/2013

Сёння, 21 студзеня, спаўняецца 85 гадоў магілёўскаму пісьменніку, сябру СБП Івану Аношкіну. Паважаны Іван Архіпавіч! Прыміце нашыя шчырыя віншаванні і пажаданні моцнага здароўя, дабрабыту, заўсёднага выдатнага настрою! Няхай кожны дзень прыносіць плён, натхненне і радасць.

ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў"

*Віншуем!*

## Івану Аношкіну - 85

**Нельга ўявіць сабе нашу беларускую літаратуру без творчасці Івана Архіпавіча Аношкіна, якая заўсёды вызначаецца набліжанасцю да народнай душы, да яскравай і жывой беларускай гаворкі.**



Іван Архіпавіч чуйна прыслухоўваецца да сучаснасці, знаходзіць усё новыя і новыя фарбы для яе шчырага ўвасаблення на празаічных аркушах. Прапускаючы ўсё ўбачанае і пачутае праз сваё нястомнае сэрца, пісьменнік Іван Аношкін робіць свой вялікі ўнёсак і ў нашу літаратуру, і ў нашы ўдзячныя сэрцы.

Віншуем Івана Архіпавіча з яго 85-гадовым юбілеем, зычым яму моцнага здароўя на доўгія гады і жадаем, каб і надалей ягонае вострае літаратурнае пяро было нястомным, а зорка Аношкіна заўжды ззяла на небасхіле беларускай літаратуры.

**Сябры, калегі, землякі, чытачы**



**Іван Архіпавіч АНОШКІН (21 студзеня 1928 г., в. Антонаўка Чавускага раёна Магілеўскай вобласці) — беларускі пісьменнік.**

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. У 1947 годзе скончыў Суражскае педагагічнае вучылішча ў Бранскай вобласці РСФСР. Працаваў выхавацелем Далісіцкага дзіцячага дома ў Бранскай вобласці, адказным сакратаром рэдакцыі суражскай раённай газеты «Маяк коммуны». У 1948 г. пераехаў у Брэсцкую вобласць, працаваў загадчыкам Мышчыцкай пачатковай школы Жабінкаўскага раёна, адказным сакратаром рэдакцыі жабінкаўскай раённай газеты «Ленинский путь», карэспандэнтам абласной газеты «Заря». Скончыў Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КПБ у 1956 г., завочна скончыў гістарычны факультэт Магілеўскага педінстытута ў 1964 г. Рэдагаваў чэрыкаўскую раённую газету «Сацыялістычная перамога». З 1959 г. – літсупрацоўнік, з 1968 г. – загадчык аддзела абласной газеты «Магілёўская праўда», а з 1981 г. – сакратар Магілеўскага абласнога аддзялення СП БССР. Член СП СССР з 1965 г.

Друкуецца з 1946 г. Літаратурнай працай займаецца з 1951 г. Аўтар зборнікаў апавяданняў і гумарэсак «Лішні мінус», «Херувім з чорнымі крыламі», «Курам не да смеху», аповесцей і апавяданняў «Старыя знаёмыя», «Брантазаўр», «Компас паказвае на захад», «Землякі», «Чырвоная каліна стаяла...». Аўтар кніг для дзяцей «Навічок», «Алёнчын сакрэт», «Антонаў ясень».



**Иван АНОШКИН** *Рассказ*

## Антонов ясень

Всякий раз, когда наезжаю в своё Заболотье, как только выпадают вольные минуты после встречи с матерью, спешу на пригорок за деревней. Там, одиноко в поле, тихо шелестит листвой стройный ясень. Вся деревня — да что деревня! — вся окрестность называет его Антоновым.

Под шёпот ясеня плывут мысли, воспоминания...

Антон Макарович приехал в нашу школу прямо из института. Преподавал ботанику и зоологию. Невысокого роста, щуплый, казался подростком. Школьный сторож дед Бадыль, у которого квартировал учитель, так по-свойски и звал его — Антон. То и мы, сорванцы, школьники, лишь на уроке или на какой там экскурсии величали его Антоном Макаровичем. А за глаза тоже звали просто Антоном. «Не нарисовал лютик? Антон тебе двойку влепит». Или: «Мама, сегодня рано не жди: после уроков опять с Антоном в лес пойдем!»

В лес осенью ходили часто. И не просто на экскурсию иль там, на прогулку — за саженцами.

Как раз перед тем в нашем Заболотье новую школу построили. Прежде была не школа — скворечня. В тесных комнатушках дышали пылью. В трескучем январе, когда углы серебрила изморозь, жались на переменах к печке. А тут — этакая радость. Просторный дом на косогоре. Школу поставили на отшибе за деревней, чтобы и детям соседнего Залесья было ближе.

— Школа без обсадки — сирота! — говорил Антон Макарович.— Пусть каждый посадит дубок иль берёзу. Не зря пословица: кто вырастил деревце — тот не умирает.

О бессмертии мы не думали. Но когда Антон Макарович вскидывал на плечо лопату и брал ориентир к лесу, мы, как нитка за иголкой, тянулись вслед.

Осенний лес притих, оголился. Чуть не задевая вершины деревьев, плыли сизые клочковатые тучи. Но вот пробился дотошный луч, на поляне заплясали солнечные зайчики. И поляна уж не та, засветилась желтизной, вспыхнула багряными, оранжевыми, коричневыми кругами. Ближе подступил дубок, зашуршал жестяными заржавленными листьями.

*(Окончание на с.2)*

# Юбіляры студзеня



► **Споўнілася 205 год Вінцэнту Іванавічу ДУНІНУ-МАРЦІНКЕВІЧУ** – пісьменніку і драматургу, класіку беларускай літаратуры.

Нарадзіўся 23 студзеня 1808 г. у фальварку Панюшкавічы Бабруйскага павета, у сям'і дробнага шляхціца-арандатара. Сярэднюю адукацыю атрымаў у Бабруйску, затым быў два гады студэнтам-медыкам Віленскага універсітэта. Служыў чыноўнікам у розных установах г. Мінска. Аўтар драматычных, паэтычных твораў, вершаваных апавяданняў. Напісаў п'есы "Пінская шляхта" і "Залёты". Пераклаў на беларускую мову паэму А.Міцкевіча "Пан Тадевуш". У 1860-х гадах набыў невялікі маёнтак, у якім і памёр 21 снежня 1884 г. Пахаваны паблізу вёскі Падневічы Валожынскага раёна Мінскай вобласці.



► **Споўнілася 95 год Івану Рыгоравічу НОВІКАВУ** – празаіку.

Нарадзіўся 21 студзеня 1918 г. у в.Незнань Клімавіцкага р-на. Скончыў 1-ю клімавіцкую сямігодку і паступіў у Магілёўскі газетны тэхнікум. Вучыўся ў Аршанскім настаўніцкім інстытуце, Ленінградскім інстытуце журналістыкі. Вучоба перапынілася з пачаткам Вялікай Айчыннай вайны. З лютага 1942 года ён камандаваў узводам упраўлення «кацюш». Быў паранены. Перамогу сустрэў у Аўстрыі начальнікам разведкі дывізіёна. Пасля дэмабілізацыі, у 1946 г. стаў супрацоўнікам рэдакцыі газеты «Советская Белоруссия». З 1957-га — карэспандэнт, а потым загадчык карпункта «Праўды» па Беларусі.

Пісаць пачаў рана, дэбютаваў вершамі ў раённай газеце ў 1935 годзе. Напісаў аповесці «Сэрца інакш не можа», «Руіны страляюць ва ўпор», «Дарогі скрыжаваліся ў Мінску», «Да світання блізка», гістарычныя нарысы «Бясcмерце Мінска» і «Мінск – горад-герой». І.Новікаў – Заслужаны дзеяч культуры Беларусі, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа, Дзяржаўнай прэміі БССР імя П.М.Лепяшынскага, Дзяржаўнай прэміі БССР, Літаратурнай прэміі імя. А.А.Фадзеева.

Памёр у 2001 годзе, пахаваны ў Мінску.



► **Споўнілася 85 год Георгію Фёдаравічу ЮРЧАНКУ** – паэту-сатырыку, парадысту, мовазнаўцу, крытыку.

Нарадзіўся 31 студзеня 1928 г. у вёскі Кудрычы Мсціслаўскага раёна. Закончыўшы ў 1940 г. пачатковую школу, прадоўжыў вучобу ў Чырвонагорскай сямігодцы. У 1951 г. скончыў Магілёўскі настаўніцкі інстытут, у 1959г. – Гродзенскі педагагічны інстытут. Выкладаў беларускую і рускую мову і літаратуру ў школах Дзятлаўскага і Воранаўскага раёнаў на Гродзеншчыне. Вучыўся у аспірантуры пры інстытуце літаратуры імя Я. Купалы АН Беларусі. З 1961 г. – рэдактар, у 1962-1988 гг. загадчык рэдакцыі літаратуры, мовы і мастацтва, затым рэдакцыі філалогіі ў выдавецтве «Навука і тэхніка».

Друкавацца пачаў з 1959 г. Выйшлі кнігі літаратурных пародый і эпіграм «Распрэжаны Пегас», «Вярхом на вожыку», «Немеладычныя мелодыі», «Парнаскія ўхабы», «У натхнёнай пеграбеньцы», «Негабляваная пегасня», дыялектныя слоўнікі «Дыялектны слоўнік: З гаворак Мсціслаўшчыны», «Народная сінаніміка», збор дыялектнай фразеалогіі Мсціслаўшчыны ў 3-х кнігах – «І коіцца і валіцца», «І сячэ і паліць», «Слова за слова», «Народнае вытворнае слова: З гаворкі Мсціслаўшчыны» ў 3-х кнігах, «Сучаснае народнае слова: З гаворкі Мсціслаўшчыны».

Жыве ў Мінску.

# Антонов ясень

Задрожала последняя, словно вылитая из червоного золота, краса клёна. А здесь что за чудо?

— Гей-гей!.. Антон Макарович! На ёлочке листочки выросли!

— Может, на вербе груши?

Но смотрит и сам удивляется: ёлочка в листьевой одёжке. Да ведь это берёза стряслa с себя пожелтевший наряд. Ветер подхватил, закружил те листочка, устлал ими колючие лапки.

А там что костром вспыхнуло? Рябина! Издали манила крупными пунцовыми гроздьями. У нас на чердаке всегда бывала с осени призапашена рябина. Когда прихватит её морозцем, этакое лакомство! А ещё мама ложила рябину за вставляемые на зиму подвойные рамы. Красиво и здорово. Если же случится угореть — первое оконное спасение от рябины.

— Давайте наломаем!

— Угу, уже сладкая! Обломаем дочиста!

— Зачем же дочиста — остановил Ан-тон Макарович. — Нужно и дроздам... Зима долгая…

— А что — дрозды не улетают в тёплые края?

— Не все... А ещё остаются синички...

Вот они, лёгкие на помин, вон синички! С визгом-писком живым клубком катятся по лесу.

— Здесь не только синички! — засмотрится, бывало, Антон Макарович.— Здесь и пищухи, корольки… Ватагой им веселее.

Все они неважные летуны, то порхают низом по мелколесью... Обшарят каждый кустик, каждую щелочку в пне, коре. За день семейка синиц может уничтожить тысячи гусениц. А зимой птицам и холодно, и голодно!..

Антон Макарович вёл свой рассказ, выбирал деревца. Ага, липочка. По долговечности липа уступает разве дубу. Красотой — пожалуй, ни одному дереву. Особенно летом, когда покрывается нежно-золотистым цветом, когда мёдом пахнет. Потому в Белоруссии седьмой месяц и зовут липенем. А берёзочка! Ни в каком заморском крае такую белоствольную прелесть не встретишь! Весной сладким берёзовиком попотчует, зимой душистым веником в бане выпарит, усталость снимет. Неспроста о берёзе в народе столько песен! А как обойти ясень? Тоже изящен. К тому же прочный, как дуб. Возьмём на радость себе и снегирям. Оказывается, семена ясеня в зимнюю стужу — первый корм этих красногрудых прилётных с севера птичек.

Неторопливо шёл по лесу Антон Макарович, выбирал деревца. Выбирал такие, которым тесно было в густой засени, которых затеняли от света, от солнца лесные великаны. А выкапывая, приговаривал: «Не печальтесь, не горюйте, родимые! Вам будет уютно, тепло на школьном дворе..."

Вдруг едва не из-под лопаты выкатился серый комочек, запрыгал по седой моховой перине. Зайчишка? Совсем крохотный! Где уж такому от нас улепетнуть. Поймали! Испуганно бился в моих руках, стриг ушами, зиркал косыми глазёнками. Что за неудалица! Совсем за лето не вырос!

— Какое вам лето? — наклонился над зайчишкой Антон Макарович. — Неделю, от силы две как на свет появился. Это же листопадник.

Листопадник, рассказывал Антон Макарович, из последнего в нынешнем году зайчихиного приплода. А первые детки у мамы-зайчихи — мартовички, на снегу. Но мама и в марте, и всегда не очень заботится о своих малышах. Накормила — только её зайченята и видели. Случится бежать мимо чужой зайчихе — та накормит малых своим молоком. А не подвернётся, то зайчишка и сам найдёт себе корм. Сызмала привычен ко всему. Так и выкачается, если не ухватит лиса или коршун. Сколько серегеньких гибнет!

— А этого убережём! — прижал я зайчишку к груди.— В школу отнесём... Сделаем живой уголок...

— Лучше выпустить, — не согласился Антон Макарович. — Пусть весь лес будет нашим уголком!

Жалко отпускать зайчишку, но как не послушать учителя. Вначале бедняжка даже не поверил, что возвратили ему волю. Повёл ушами, шмыгнул в порыжелый папоротник. Большой расти, малыш!

Долго бродили по лесной чаще. У тропинки то лилово-розовый вереск, то красный бисер брусники, то прилип к пню опёнок. Эге, да грибы не только возле пней! И высоко на ветвях грибы! Это же, смекнул Антон Макарович, белкин "энзэ" — неприкосновенный запас на зиму, значит. Где только не устраивает свои кладовки. В тех кладовках — жёлуди и орехи. А ещё белкин стол — шишки на елях.

Тропинка вывела в старый бор. Будто из бронзы вылитые сосны уходили в небо. Лесную тишь нарушали только звонкая дробь дятла да пронзительный свист рыжебокой сойки.

А что блеснуло меж сосен? Да это же Чёрное озеро! Возле озера — огромный снежный ком? А на воде снежком припорошено! Что за диво?! Белел не снег. Повисла над водой верба-бредина. Распушилась белым пухом — ей и осень за весну. Любуется не налюбуется собой будто в зеркало. А на воде, как на картинке в читанке, белые птицы с долгими выгнутыми шеями. Лебеди! Плавают и никого не страшатся. На озере, как на базаре, галдёж, гомон... Плещутся утки. Дикие. Перелётные. Сели отдохнуть, покормиться. И не боятся простудиться. Хотя вода ледяная. Тянет от озера сивер. Зябко дрожит, колышет метёлкой сухой камыш.

— Вот какое озеро!..

— Такое бы в Заболотье!

— А что! Можно вырыть! — загорелся Антон Макарович. — На Могилёвщине у нас озёр не густо.

— А речек?

— Ну, речек хватает!.. Речек, ручьёв, ручаин всяких — нигде столько!.. Но за ними тоже нужен присмотр, уход…

Пока, будто завороженные, любовались тем сказочным озером, начал подкрадываться вечер. На верхушках деревьев ещё переливались блики солнца, а из-под сосен и елей выползали сумерки. Да так и ночь захватит в лесу!

— Как бы не заблудиться!.. Без компаса...

— В лесу компас — куда ни глянь, — подтрунивал над нашей боязнью Антон Макарович. — Только примечайте! Мох на деревьях — его всегда больше с северной стороны. А муравейники у деревьев — с южной... А то послушайте. Журавли курлыкают. На юг тянут. И нас выведут на дорогу...

Дорожка домой неблизкая, то быстро бежали. Антон Макарович подбадривал нас, шутил, что не тяжка лесная поклажка.

— Зато вырастим возле школы парк!

— Мы ещё и сад посадим!

— Можно и сад, — вместе с нами вслух мечтал Антон Макарович. — Где юннат, там и сад!

Только же мечтали об одном, а свершилось другое.

В то ясное июньское воскресное утро мы с Антоном Макаровичем копались в школьном огороде, пропалывали свеклу и морковку. Вдруг в раскрытом окне показалась взъерошенная борода деда Бадыля, — не своим голосом позвал дед.

— Антон!.. Аль не слышишь?! Война!.. По радиву гутарят!..

Мы не сразу поняли что и к чему. А потом бросились вслед за Антоном Макаровичем в учительскую, прильнули к радиоприёмнику. Фашисты бомбили Киев и Минск.

Назавтра парни и мужчины сыпанули в райвоенкомат. Вместе со всеми — и наш Антон Макарович. Да вот незадача — в армию его не взяли, то ли по молодости, то ли из-за какой болезни. Переживал, сокрушался. Записался в народную дружину.

А война всё ближе, ближе. Уж слышно, как дрожала от взрывов земля. Ночное небо озаряли пожары. Фашистские танки прогрохотали мимо Заболотья — на восток…

...Медленно, докучными дождями, тянулась промозглая осень. Казалось, конца не будет лютой зиме, В школу не ходили. В школе отборились бобики — так изменников-полицаев окрестили. Чинили продажники издевательства над людьми.

Как-то уж весной Заболотье на рассвете разбудила стрельба. Кто? Что? Где? У школы стреляют! Партизаны! Атаковали полицейский гарнизон! Бобики почуяли, что конец им пришёл. Отбивались автоматами, пулемётами. А тут зарокотали моторы. На грузовиках и мотоциклах спешили на выручку немцы.

Заполыхала гонтовая крыша. Бахали гранаты. Партизаны отстреливались с пригорка. Вот уж от леса...

Наконец стрельба утихла. Только на пригорке вопили немцы. Пояхкали и укатили. Полицаи взвалили на подводы своих раненых и убитых, тоже смотались.

А мы с дедом Бадылём бросились на пожарище. Там ещё тлели головешки. На сырой траве поблескивали отстреленные гильзы.

— О чём каркало там вороньё?

На пригорке, за серым валуном, беспомощно распластался человек. Гимнастёрка в крови. Его, видно, ранили в руку ещё там, у школы. Чтобы остановить кровь, пережал рану ясеневой веткой. А тут настигла вторая пуля.

— Да это же Антон! — упал на колени дед Бадыль. — Антоне!.. Голубчик мой!..

У меня что-то оторвалось внутри. Защемило сердце. Антон Макарович! Антон Макарович!.. Учитель не отозвался...

Мы похоронили Антона Макаровича тайком от немцев и полицаев. Возле серого валуна вскоре пробился зелёный побег. Ясень!

...В Заболотье давно построена кирпичная школа. Её обступают зелёным кольцом деревья. А здесь, на пригорке, шелестит листвой, шепчется с ветром Антонов ясень.

Яраслаў КЛІМУЦЬ

# З разуменнем дзіцячай псіхалогіі

Для чытацкай грамадскасці Іван Аношкін вядомы як сатырык і гумарыст. Першую кніжку гумарэсак і сатырычных апавяданняў "Лішні мінус" ён выдаў больш за паўстагоддзя таму, у 1959 годзе. Пасля былі кнігі "Старыя знаёмыя" (1963), "Брантазаўр" (1973), "Херувім з чорнымі крыламі" (1984), "Курам не да смеху" (1985), "Каханне з памялом" (2007). Яны трывала ўвайшлі ў фонд гэтага даволі дэфіцытнага празаічнага жанру, запатрабаваныя і сучасным чытачом.

Маюць сваю трывалую нішу ў літаратурным працэсе не толькі Магілёўшчыны і эпічныя творы, у якіх адбіліся надзённыя праблемы беларускага жыцця другой паловы мінулага стагоддзя. У асноўным яго творы мелі этычна-маральны пафас, выкрывалі ў душах людзей нізкія выявы мяшчанскай псіхалогіі, або сцвярджалі ў характарах людзей высакародныя памкненні. У зборніку "Землякі" (1978) І.Аношкіну ўдалося паказаць людзей самабытных, адданых сваёй справе, высакародных (апавяданні "Кнопачка", "Экзамен", "Завялыя пялёсткі" і інш), якія ў самай звычайнай будзённай працы заўсёды знаходзяць паэзію, таму што самі чалавечныя і паважаюць гэтыя якасці ў іншых, або рэзка іх асуджаюць, што таксама



было ўласціва беларускай вёсцы таго часу. Праўда, часам гэтым творам не хапала глыбокай сацыяльнай аналітычнасці.

Аднак сёння хацелася б сказаць пра іншую плынь творчасці Івана Архіпавіча, можа, найменш заўважаную літаратурнай крытыкай – яго кнігі для дзяцей дашкольнага ўзросту і вучняў сярэдніх і старэйшых класаў. Скажам адразу: па колькасці напісанага І.Аношкін уступае сваім калегам у гэтым жанры, асабліва тым, што спецыялізуюцца менавіта на дзіцячай літаратуры. Варта згадаць тут яго кнігі для саміх маленькіх "Навічок" (1966), "Алёнчын сакрэт" (1969), "Антонаў ясень" (1981), "Дзве дзяўчынкі, дзве Ірынкі" (1992), каб убачыць талент пісьменніка ў выяўленні самых звычайных жыццёвых сітуацый праз непасрэднасць іх успрымання дзецьмі. У кожным апавяданні аўтар стварае такую сітуацыю, у якой праяўляюцца і асабістыя рысы характару яго маленькіх герояў, і іх натуральнае жаданне ўсё ў жыцці бачыць прыгожым, і памкненне быць першымі сярод іншых, і спагаду да свайго бліжняга, чаго так часам не хапае дарослым, і камічныя сітуацыі, уласцівыя гэтаму ўзросту. Вось хоць бы сюжэт апавядання "Воля-кулінарка", не дужа сюжэтна напружанае, але ў нечым і ўражлівае: маленькая Волечка, якая хацела так здзівіць сваіх сяброў, што рашыла самастойна прыгатаваць пірог. Але ў сваіх стараннях пераўзышла ўсе нормы, яе здоба аказалася нейкай салёнай, непрывабнай. Высветлілася, што дзяўчынка многа кінула стрававай соды. Але і тут на выручку прыходзяць старэйшыя: бабуля частуе гасцей пя-

чэннем сваёй выпечкі. Тут і дасціпнасць, і наяўнасць звычайнай павучальнасці. Дарэчы, тактоўны дыдактызм характэрны ўсім апавяданням, бо пісьменнік ставіць за мэту не ствараць нейкую камічную сітуацыю, а падаць гістарычна працэс народнага педагагічнага вопыту ("Дружная сямейка", "Балельшчык", "Казюрачка" і інш.).

Пісьменнік умее па-мастацку перараказальна перадаць духоўны свет маленькага героя, выразіць яго пастаяннае памкненне да самастойнасці, да сцвярджання сваёй пазіцыі ў даступных яму межах, напрыклад, даказаць самаму сабе, што не баіцца пайсці ў дес, якім яго заўсёды палохаюць сталыя людзі.

Асабліва пісьменнік любіць вылучаць у сваіх герояў самыя лепшыя якасці, тыя рысы, якія фармуюць іх як асобы: умець спагадаць усяму жывому, радавацца жыццю, імкнуцца дапамагчы знядужаламу і патрапіўшаму ў бяду. Самыя лепшыя якасці характару чалавека заўсёды вылучаюцца ў творах І.Аношкіна. Вось Марынка, якая шкадуе замёрзлую сінічку ("Знічка"), хлопчыкі, якія рашылі прывезці жывую ёлку на Новы Год, але ўжо ў лесе, загледзеўшыся на прыгажосць прыроды, рашаюць абысціся толькі галінкамі ("У гаі, каля Цішоўкі"), дзяўчынка даруе сваім міжвольным крыўдзіцелям ("Пасварыліся...") і г.д.

Кожная мастацкая кніжка павінна многаму вучыць, але тут галоўнае не перабраць меру, выявіць усе працэсы найбольш натуральна, каб малы чытач верыў, што гэта так і на самой справе. У гэтым плане апавяданні І.Аношкіна вытрымліваюць самыя строгія патрабаванні: у іх і харошы дыдактызм, і дапушчальная займальнасць, і прыглушаная іронія, і адкрытая жыццясцвярджальная ўсмешка ("Памочніца", "Качалка", "Чаму засумавала бярозка", "Зманлівыя ледзяшы" і інш.). Разам з тым, у творах пісьменніка ясна праглядваецца арыентацыя яго чытача на будучыню, на ўменне спалучыць свае жаданні з агульнымі патрэбамі, урэшце, на канкрэтную неабходнасць узаемаразумення паміж сталымі і малымі, адказнасць бацькоў за выхаванне сваіх дзяцей. Увогуле, усе апавяданні пры іх звычайнай прастаце маюць надзвычай вялікую знешнюю прыцягальнасць і глыбокі ўнутраны змест.

Аднак не толькі дашкалята прыцягвалі ўвагу І.А.Аношкіна. Школьнікі сярэдніх і старэйшых класаў таксама могуць знайсці цікавыя для сябе творы з усяго напісанага пісьменнікам. Напрыклад, займальнай з'яўляецца аповесць "Компас паказвае на захад", у пэўнай меры заснаваная на ўласных сведчаннях і перажываннях самога пісьменніка. Падзеі пачынаюць разгортвацца ў самыя перадваенныя гады. Сябры, вучні чацвёртага і пятага класаў Максімка, Костусь, Гога і Зміцерка, імкнуцца пазнаць свет, не прапусціць нешта дужа важнае, таму часам трапляюць у складаныя ўмовы, дзе неабходна не толькі звычайная загартаванасць, але і ўменне шукаць выхад з самых складаных сітуацый, пераадольваць страх і фізічную стомленасць. Першае такое выпрабаванне хлапчукі міжвольна наладзілі сабе выпадкова, калі Максіма, пастаянны выдумшчык і завадатар, арганізаваў лыжны паход у няблізкую Смалярню, каб праверыць на практыцы дзеянне компаса, які яму прыслаў у падарунак дзядзька-пагранічнік. Прыгоды завяршыліся на той час шчасліва, бо хлопчыкаў, якія заблудзіліся ў зімовым лесе, знайшоў дзед Кузьма з Леснічоўкі. Тут хлапчукі пазнаёміліся з сваім аднагодкам Сёмкам, які таксама, як і дзед, добра ведаў урочышчы, балоты, таемныя сцяжынкі ў іх. Ён і паказаў шлях да Смалярні, дзе мужчыны з вёскі рыхтавалі бярвенні для будаўніцтва школы. Уласна, з гэтага эпізода і пачынаюцца завязвацца ўсе драматычныя вузлы ўзаемаадносінаў, што стануць вызначальнымі ў сюжэце твора. Тут назіраюць хлапчукі за першымі супярэчнасцямі жыцця, якія пакуль ім бачацца толькі ў суперніцтве маладых хлопцаў Яшкі і Сцяпана, апошні дзядзька Костуся, завалодаць сэрцам прыгажуні Зоські. Яны становяцца і сведкамі драматычнага выпадку, калі бервяно, скаціўшыся са штабеля, магчыма і не без дапамогі Яшкі, перабіла нагу Сцяпану. Адсюль і будуць разыходзіцца па розных сцяжынах жыццёвыя шляхі многіх герояў. Пісьменнік даволі скупымі штрыхамі абмалёўвае трывожнае становішча пачатку саракавых гадоў: ідзе вайна, пакуль яшчэ далёка ад іхніх мясцін, але ўжо ёсць і першыя трагічныя яе вынікі, бо загінуў на фінскай вайне бацька Костуся, недзе на граніцы ахоўваюць спакой краіны і іншыя вяскоўцы.

У адпаведнасці з успрыманнем падлеткамі рэчаіснасці паказвае І.Аношкін і першыя звесткі пра напад фашыстаў. Хлапчукі перажываюць не драматызм падзей, а нейкае шкадаванне, што героічная Чырвоная Армія разаб'е ворага без іх удзелу, таму і робяць усе найіўныя намаганні, каб патрапіць на фронт. Але іхняя летуценнасць хутка развейваецца, калі прыйшлося сустрэцца з жорсткімі рэаліямі жыцця. Першыя іх праявы Максімка ўбачыў, калі дапамагаў гнаць статак на Усход: пагоншчыкі прыдумвалі розныя прычыны, каб толькі пабольш затрымлівацца на адным месцы, урэшце вярнулі статак дадому, чаго не асудзілі ўсе вяскоўцы. Потым хлопчыкаў здзівіляла, што знаходзяцца людзі, якія ахвотна ішлі на службу да акупантаў, відаць, не разумеючы, што многае было вымушана, а сёе-тое і па загадзе, зрэшты, і розныя іншыя сітуацыі. Але яны застаюцца патрыётамі: спальваюць мост, каб фашысты не дабраліся да іхняй вёскі, выконваюць некаторыя заданні партызанаў, урэшце, і самі вымушаныя былі застацца ў супраціўленчым атрадзе. Моцную зарубку ў душах пакінула смерць сябрукоў, масавы расстрэл яўрэйскіх жыхароў мястэчка.

На старшых школьнікаў, можна сказаць, арыентавана і аповесць "Спадчыніца" (відаць, лепш было б "Спадчыніца"), у якой створаны абаяльны вобраз маладой дзяўчыны Надзі Гараўцовай, нядаўняй выпускніцы сельскай сярэдняй школы, сіраты, якая хоча здзейсніць сваю даўнюю мару – стаць настаўніцай, але па нейкай недарэчнасці не дабрала неабходных балаў, таму застаецца жыць у цёткі, а потым, не згаджаючыся з яе мяшчанскай філасофіяй, вырашае вярнуцца ў родную вёску. Пісьменнік узнімае важную праблему – выбару свайго жыццёвага шляху, паказвае, што зрабіць гэта бывае і не так проста. Праўда, і тут праглядаецца прыкметная заідэалізаванасць.

Кнігі пісьменніка вучаць дабрыні, спагадлівасці, простай чалавечнасці, таму і сёння з'яўляюцца надзённымі. На жаль, выдадзеныя паўвека таму, відаць, прыйшлі ў таварную нягоднасць, асабліва для маленькіх чытачоў, бо іх няма ў бібліятэках. А шкада, бо і сёння яны рабілі б карысную справу выхавання станоўчых якасцей новых пакаленняў. Можа дзяржаўнаму выдавецтву варта паклапаціцца пра выданне кніг у серыі "Для малодшых чытачоў", дзе сабраць лепшыя ўзоры гэтай літаратуры.

У юбілейныя дні зычым Івану Архіпавічу здароўя, добрага творчага настрою, аптымізму.

# Смех Высоцкага



**25 студзеня Уладзіміру Высоцкаму – 75. Век звычайнага чалавека. Але ён не дажыў да гэтага веку больш за трыццаць год. Ён любіў сваю краіну і ненавідзеў сваю дзяржаву. Бо дзяржава была антычалавечай. Чарговы раз сустракаючыся з дзяржаўнымі служкамі (на што быў вымушаны, хаця б для таго, каб пабачыцца з жонкай-парыжанкай) і чарговы раз пераконваючыся ў іх дурасці і бессардэчнасці, ён ад бяссілля перад гэтай сцяной пачынаў смяяцца. Яго гарычны смех выплёскваўся ў песні. Паслухаем адну з іх.**

## Інструкцыя перад паездкай за мяжу

Я заўчора скончыў коўку,
Аж два планы абламаў.
За мяжу камандзіроўку
Ад завода атрымаў.

Змыў пад душам сажу
з вуха,
З'еў кавалак пірага
Ды інструктара паслухаў,
Што там нельга,
а што льга.

Побыт сёння крыху
лепшы ў іх кругох.
Дык, каб я не адчыбучыў
там чаго,
Даў ён мне чытаць
брашуру, як наказ,
Каб не ўздумаў жыць там
здуру, як у нас.

Гаварыў са мной
як з братам
Пра замежны кавардак,
Пра візіт да дэмакратаў
У польскі горад
Кракавяк:

"Там на іх свая пячатка –
Цяжка нам не асуджаць.
Паспрабуй-ка ты іх,
братка,
Хоць крыху ды
паважаць.

Будуць пра пітво дэбаты
– адвучай:
Не ўжо, хлопцы-
дэмакраты, – толькі чай!
Прапануюць падарункі, –
не бяры:
У саміх дабра такога
як махры!"

Ён сказаў:
"У тым камфорце
Ашчаджай, ды не дуры.
І, глядзі, не выкінь
форцель –
З сухамяткі не памры.

У тым чэскім Будапэшце
Так вядзецца ўжо
здаўна –
Можа й скажуць:
піце-ешце,
Ну а можа – ні храна."

Ох, я ў Венгрыі на рынак
пахаджу,
На нямецкіх на румынак
пагляджу.
Сябра чуў, што
дэмакраткі тыя, глянь,
Не бяруць з людзей
савецкіх ні рубля.

"Буржуазныя распусты
Ліпнуць нават да пяты.
Сцеражыся, як атруты,
Пазашлюбных шашняў
ты.

Там шпіёнкі з вабным
станам.
Ў дзверы іх –
яны ў вакно!
Ты кажы, што з той
заганай
Мы пакончылі даўно.

Могуць дзейнічаць яны
не напрасткі:
Сядуць побач, акурат
як мужыкі,
А сама напхае толу
пад карсет.
Угадай, якога полу
твой сусед!"

Тут я стаў як грыб
нясвежы.
Чую – нават едзе дах.
Як тут? – лезці
пад адзежу?
Дык падхопіш па мардах.

Ды інструктар –
тая штука!
Паспрабуй такога зрэж!
І пайшла далей дакука
Пра каварны той замеж.

Я для невукаў тлумачу
зноў і зноў:
Ад'язджаю да балгараў,
а не ў Пскоў.
"Калі тэмы там узнікнуць
– хутка зняць.
Біць іх нельга. А не
ўедуць – паўтараць."

Я ж па-іхняму – ні слова!
Ні ў дугу і ні ў тую!
Молат мне –
дык я любога
У свайго перакую.

Я ж зусім не агітатар,
Я ж працую ды маўчу.
Ды ў той польскі
Улан-Батар
Я ўжо й ехаць не хачу!

З жонкай сплю, але не
спіцца: "Дуся, чуй!
Нешта я ў замежжа тое
не хачу.
Я ж не іхняга замесу,
я збягу.
Я ж па-польску
ці па-швэдску – ні гугу!"
Дуся спіць,
мая сяброўка,

Накруціўшы бігудзі,
І мармыча мне
спрасонку:
"Хопіць, Коля, не гудзі.

Нешта ты зусім нясмелы,
Разьвядуся я з табой!
Дваццаць год спім
цела ў цела,
А ўсё: Дуся, Дуся! Вой!

Абяцаў і ўжо не помніш?
– ну даеш! –
Што цырату з
Бангладэшу прывязеш.
Прыхавай там пару
рупій, не бузі.
І хоць што, хоць чорта
ў ступе прывязі."

Я заснуў,
абняўшы друга,
Жонку верную маю.
Сніў – нібыта я кальчугу,
Шчыт і меч сабе кую.

Там у іх не тыя меркі.
Ледзь не так –
і будзеш дзе?!
І ўсё сніліся мне немкі
Пры ружжы і ў барадзе.

Сніў я Дусіны цыраты
ў колер бэж
І шпіёнак зухаватых
з Бангладэш...
Пажыву я воляй Божай
у румын.
Кажуць, што яны
з Паволжа, як і мы.

Вось жанчына –
вулі-вулі!
Як праводзіць –
стала печ.
Павыгладжвала кашулі –
Люба-дорага глядзець.

Да спаткання,
цэх кавальскі,
Дзе любімы на'т прабой!
Да спаткання,
план мой майскі,
Перавыкананы мной!

Пілі мы – спірт у аорту
пранікаў,
Да самога эрапорту
я ікаў.
Я на трап – а мне ў спіну
нібыта брэх:
"На каго ж ты, Коля, кінуў
нас усех?!"

*Пераклаў* ***Міхась БУЛАВАЦКІ***



Сяргей Украінка

# СМЕХАЁЧКІ

**ПАПЯРЭДЖАННЕ**

На беразе Дняпра малады рыбак заклапочана пытаецца ў пажылога:
– Дзядзька, а што гэта ўжо трэці дзень не відно ні цеплахода, ні маторак?
Той адказвае:
– Радыё трэба слухаць, пацан. Штармавое папярэджанне аб'явілі.

**ГНОЙ**

Сусед-бабыль капае бульбу. Цікаўлюся:
– Ну, Лявоне, і колькі мяхоў ужо завалок на паграбню?
– Завалачэш тут, бляха. Тры клунакі з соткі. А то ты не знаеш, якая бульба расце на сабачым гнаю.

**КУМЫ**

Кумы Івон з Сяргеем крылі хату Шамковай Алене.
З паўднёвага боку паклалі ўжо ці не палову шыферу, калі гаспадыні надакучыла сноўдацца па двары і яна прысела на калодку ля павеці. А як прысела, то і прыгледзелася да працы падзённікаў.
– О, о, Сяргейка! Ты во ету шыферыну трохі ўлева заваліў. А вунака тую нада ўверх падцягнуць. А нашто ты ў крайнюю па два гвазды знізу забіваеш?
Івон, які падаваў шыфер на дах, падышоў да "брыгадзіркі" і асцярожненька так запытаўся:
– Дык ты, Аленачка, можа, і сама крыць умееш?
Жанчына хмыкнула:
– А што тутака ўмець: падганяй лісты ды прыбівай.
Івон рашуча махнуў рукою:
– Злазь, куме. Пайшлі да лаўкі. Алена сама разбярэцца.
– А Івоначка, а суседзечка, а я ж пашуткавала.
– Не-е. Раз ты ўсё сама ўмееш, то мы тут людзі лішнія.
Не зважаючы на сакатанне гаспадыні, якая аж рассцілалася з уговарамі, кумы няспешна сабралі струмант і пакіравалі да крамы.

**ХАРАКТАР**

Вясковая мянушка яго была Шкраб і ён страшэнна не любіў, калі яго так дражнілі. У дзяцінстве адразу кідаўся ў бойку, а калі пасталеў, проста пераставаў размаўляць з "крыўдзіцелем".
З наравістаю жонкай ён жыў пагана. Былі частыя сваркі, іншы раз нават бойкі. Так сталася і на гэты раз. Слова за слова, і калі жонка з нянавісцю працадзіла: "Шкраб ты дурны! Калі ты ўгамонішся, паскуднік?" – накінуўся на яе з кулакамі. Пасля трэцяга ўдару жанчына абрынулася на падлогу. Ды толькі, што значыць характар! Ужо трацячы прытомнасць, яна заскарадзіла па фарбаванай масніцы пазногцямі: "Шкраб! Шкраб! Шкраб!"

**СВЯКРОЎ**

Жанчына-пенсіянерка пытаецца ў суседкі:
– Як там, Валя, свякроўка твая пажывае?
– А нічога сабе, нармальна. Яна ў гарадской, у рэанімацыі ляжыць. Лечаць, кормяць, ды і мы зеляніну ўсякую падвозім.
Што йшчэ бабе нада?..

**ЗАХМЯЛІЛА**

Аўхімава жонка з'ехала ў горад праведаць дачку. Самотнік надвячоркам пастукаўся да суседкі. Нясмела папрасіў:
– Волечка, ці ты падоіш сёння маю Красуню? Баюся ж бо чорта гэнага рудога. Досвіткам прысеў з даёнкай, а яна, гадаўка, як улупіць па галаве сваім кнутам, аж у вушах забомкала.
Дак я, стары даўбак, што ўтварыў: абцугі ёй на матляшку навязаў.
Думаў, цяпер-то хваста не падыме. Ага, не падыме... З такой моцы нялюдскай плесканула, што ачмухаўся толькі ад галасу заставалы.
П'янкасць у галаве, унь, дасюль не прападае.
Во захмяліла дак захмяліла, паскудзіна.
Ладна хоць забясплатна. То ці падоіш, Волечка?



**ЗАЯВА**

Капітан Іванцоў:
– Ну што, Баймухамедаў, прынёс заяву? Давай.
Чытае і пытаецца патрабавальна:
– Чаму дату і подпіс не паставіў?
Салдат паслухмяна крымзоліць на паперцы подпіс:
– А дата, эта сигоня или вчэра?
– Учора, – сур'ёзна адказвае камандзір. – Напісаў? Шнуруй у казарму, баец. І спі спакойна.
Маслачэнка атрымае па заслугах.
Кабінет апусцеў, шуфляда стала пабагацела яшчэ на адно бязмоўнае сведчанне звыродлівасці армейскай дзедаўшчыны:
"Заивлэния.
Нада наказат очын дэмбиля ифрэйтара Валоду патамучта он мина убиль сапагом на питнацат минут.
Вчэра. БайМухамэд."

**ЧЫСЦІНЯ**

– Не хачу я болей гасцяваццa ў Алізарыхі.
Учора пад вечар прыйшла да яе пагуляць, распранулася, разбулася, іду ў панчошках-вязанках да канапы, дык тая – за анучу і, язык прыкусіўшы, слядочкі нябачныя за мной усё заціра́е, заціра́е. Гэтаксама ж і да парогу правяла.
Зусім баба з глуздоў сапхнулася на сваёй чысціні.

**СУРОКІ**

Іван з Кірылам сядзяць за сталом, на якім стаіць паўпляшкі "жытнёўкі", глядзяць па тэлевізары "бітву экстрасэнсаў".
Іван:
– Што ні кажы, а я веру ў чорныя сілы. От ты вазьмі хаця майго сестражэнца Грышку Сцуляку. У яго шчэ як першыя зубы рэзаліся, дык барада распухала на ўсю калыску. Чыста бульдожыка цётка Вольга люляла. Як падрос, то што ні выйдзе пагуляць, усё куды-небудзь упрэцца: то па калені ў гудрон улезе, то сабаку пагладзіць не як усе дзеці, то яму конь рэбры пераломіць. Помніш, калі ракеты запускалі, Грышку за каўнер магнію жаркага насыпалася? Ніхто з нас ад бацькі столькі дзягі не зарабляў, як ён. У вармію не ўзялі. Жаніўся ў сорак. Трактара і таго даваць не хацелі. А як далі, дык на трэці дзень ва Умошшы ўтапіў. Так з пугай да пенсіі і правалачыўся, небарака. Людзі кажуць, Перапялёсіха, каб ёй за тым светам, насурочыла.
Кірыла:
– Помніш, перад Вялікаднем Грышка сярод ночы цераз бабу сваю пералазіў, дак руку зламіў?
Іван:
– Чаму ж не помню. А што ты хацеў – з такой гары скаціцца. Пэўне і сам бы тры дні хрыбетнік чухаў. А то Грышка. Не, мусіць, якраз тут Перапялёсіха і не пры дзялах.

*25 студзеня Сяргей Сяргеевіч УКРАІНКА адзначае свой дзень нараджэння.*
**ВІНШУЕМ!**

# Нарадзіліся ў студзені

► 15 студзеня 1927 г. у г.п. Клічаў нарадзілася Галіна Ануфрыеўна ВАСІЛЕЎСКАЯ (Скрыпка-Банат) – празаік.

► 19 студзеня 1944 г. у в.Бярозаўка Бяльніцкага раёна нарадзіўся Васіль Іванавіч НАЙДЗІН – празаік, сатырык, гумарыст.

► 22 студзеня 1935 г. у в.Целяшы Слаўгарадскага раёна нарадзіўся Віктар Афанасьевіч РАКАЎ – паэт.

► 24 студзеня 1914 г. у в.Саматэвічы Клімавіцкага павета (цяпер Касцюковіцкі раён) нарадзіўся Аркадзь Аляксандравіч КУЛЯШОЎ – паэт.

► 24 студзеня 1931 г. у в.Макрае Быхаўскага раёна нарадзіўся Міхась Іосіфавіч МУШЫНСКІ – літаратуразнавец, крытык.

► 24 студзеня 1951 г. у в.Заброддзе Быхаўскага раёна нарадзіўся Міхаіл Паўлавіч ПАЗНЯКОЎ – празаік, паэт, перакладчык.

► 28 студзеня 1940 г. у в.Змітроўка 2-я Клічаўскага раёна нарадзіўся Леанід Мартынавіч ДАЙНЕКА – празаік, паэт.

► 31 студзеня 1961 г. у г.Крычаў нарадзілася Галіна Барысаўна БАГДАНАВА (Сачанка) – празаік.



З ініцыятывай кананізаваць Наталлю Варанцову-Вельямінаву – ўнучку вялікага рускага паэта А.С.Пушкіна – выступіла Бабруйская епархія Беларускай праваслаўнай царквы. Рашэнне аб складанні жыццяпісу рускай графіні было прынята на праведзеным пасяджэнні спецыяльнай камісіі па кананізацыі святых.

Наталля Аляксандраўна Варанцова-Вельямінава была дачкой старэйшага сына Аляксандра Пушкіна. У Беларусі яна апынулася, калі яе муж граф П.А. Варанцоў-Вельямінаў, падаўшы ў адстаўку, з'ехаў разам з сям'ёй у радавы маёнтак Вавулічы. Частку свайго жыцця пражыла недалёка ад Бабруйска, дзе і пахаваная. На яе сродкі ў вёсцы Цялуша Бабруйскага раёна былі пабудаваныя школа для сялянскіх дзяцей і Свята-Нікольскі храм, які захаваўся да нашага часу.

# Творчая сустрэча

17 студзеня 2013 г. з выхаванцамі сёмых і восьмых класаў гімназіі №1 горада Магілёва сустрэлася паэтка, сябра СБП Тамара Аўсяннікава. Яна пазнаёміла са сваімі паэтычнымі і празаічнымі творамі, адказала на пытанні, датычаныя свайго творчага шляху. З вялікай цікавасцю прысутныя



паслухалі аб дзейнасці гарадскога літаратурнага аб'яднання "Святліца", якім кіруе Т.Аўсяннікава. Яна запрасіла ўсіх жадаючых далучыцца да суполкі. Таксама спадарыня Тамара паведаміла, што да друку падрыхтаваны яе новы паэтычны зборнік "Стромкая галінка" і прачытала некалькі вершаў з



гэтага выдання. Напрыканцы вечарыны вучні прачыталі свае вершы.

Сустрэчы з магілёўскімі пісьменнікамі ў гімназіі ладзіліся ў сувязі з правядзеннем Тыдня беларускай мовы і літаратуры.

*Сяргей ПІСЬМЕННЫ.*

# Размова аб надзённым

27 студзеня 2013 г. адбылося чарговае пасяджэнне Магілёўскага аддзялення ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў". Старшыня аддзялення Мікола Яцкоў зрабіў справаздачу за мінулы месяц. Было адзначана, што шмат увагі надаецца супрацоўніцтву са школамі. Сябры аддзялення атрымалі прапанову ўдзельнічаць у сумесным выдавецкім праекце са смаленскімі пісьменнікамі. Ёсць прапанова ўсталяваць сталые адносіны з гомельскім літаратурным часопісам "Метамарфозы". Плануюцца сумесныя праекты з магілёўскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Былі абмеркаваны планы публікацый бюлетэня "Дняпроўская строма" і іншыя пытанні дзейнасці аддзялення СБП.

*Аліна САВІЦКАЯ.*



Тамара Аўсяннікава, Таццяна Барысік, Сяргей Украінка, Мікола Яцкоў, Ала Яцкова



# Уладзімір Арлоў у Магілёве

23 студзеня 2013 г. Магілёў наведаў пісьменнік Уладзімір Арлоў. У грамадскай сядзібе "Кола" ён прэзентаваў свае і не толькі свае новыя кнігі.

Пачаў сустрэчу спадар Арлоў з расповяду пра гісторыка Міхася Чарняўскага, якога напярэдадні правялі ў іншы свет. Чарняўскі быў адным з тых асоб, з якіх пачыналася беларускае адраджэнне, пачыналася не ў канцы 80-х, а задоўга да таго, бо яшчэ ў 70-я гады гісторык зведаў на сабе, што такое ўвага КДБ. Дастаткова нагадаць, што менавіта Чарняўскі ўратаваў рукапіс "Споведзі" Ларысы Геніюш. Памяць гэтага мужнага і сціплага чалавека прысутныя ўшанавалі хвілінай маўчання.

Міхась Булавацкі і Уладзімір Арлоў
Магілёў, 23 студзеня 2013 г.
Фотаздымак Надзеі Бацілавай

Затым пісьменнік пачаў расказваць пра кнігі, якія ён прывёз. "Пакуль ляціць страла" – зборнік адказаў на сто найбольш цікавых пытанняў, зададзеных яму пры сустрэчах з чытачамі. Адзін з гэтых адказаў – "Ножка першай каханай" – пісьменнік зачытаў пад вясёлы смех і воплескі прысутных.

"Śvieciacca vokny dy nikoha za imi" ("Свецяцца вокны ды нікога за імі") – зборнік выбраных вершаў Арлова, напісаных кірыліцай і – паралельна – лацінiцай. Некалькі вершаў з гэтага зборніка прагучалі ў выкананні аўтара.

Акрамя гэтых Арлоў прывёз прэзентаваныя раней кнігі "Краіна Беларусь. Вялікае Княства Літоўскае" і "Слоўнік свабоды". Кнігі можна было набыць, чым прысутныя ахвотна скарысталіся, каб атрымаць аўтограф чалавека, які сёння лічыцца адным з найяскравейшых творцаў беларускай прозы і паэзіі.

*Міхась БУЛАВАЦКІ.*

На сустрэчы ў Магілёве пісьменнік і гісторык Уладзімір Арлоў заявіў аб сваёй упэўненасці ў тым, што ў працэсе дэнацыяналізацыі Беларусі пакуль не пройдзена "кропка незвароту".

*"Я лічу, што параўнанні Беларусі з Ірландыяй, якія часта робяцца, калі датычацца моўнай сферы, некарэктныя. Большасць ірландцаў не валодаюць ірландскай моваю, а большасць беларусаў валодаюць беларускай мовай, хай нават пасіўна. Думаю, усе беларусы беларускую мову разумеюць, могуць не разумець некаторых нюансаў, але гэта не значыць, што яны гэтай мовы не ведаюць ",* – адзначыў літаратар.

Уладзімір Арлоў заявіў, што сённяшнее стаўленне ўладаў да постаці Кастуся Каліноўскага і паўстання 1863 года выклікае "бясконцае шкадаванне", паколькі менавіта падчас гэтага паўстання пачала зараджацца сучасная беларуская нацыя. *"Мне падаецца, што наша нацыянальнае адраджэнне, якое ў выніку прывяло да стварэння беларускай дзяржавы з яго сучаснай назвай, было б немагчыма без паўстання, якое стала яго каталізатарам. Паўстанцы мелі газету на беларускай мове. «Лісты з-пад шыбеніцы» Каліноўскага, напісаныя на беларускай мове, не страцілі сваёй актуальнасці і цяпер ",* – сказаў Арлоў.

Пісьменнік шкадуе, што цяперашняя палітыка дзяржавы ў сферы гісторыі, культуры, адукацыі вядзе не да вяртання гістарычнай памяці, а да вяртання міфаў, створаных савецкай і расійскай дваранскай гістарыяграфіяй. *"Міфаў пра гэтую адзіную народнасць, з якой быццам бы выйшлі тры народы, пра адзіную Кіеўскую Русь, пра ўз'яднанне Беларусі з Расеяй у канцы XVIII стагоддзя. У гэтым шэрагу я бачу і стаўленне да паўстання 1863 года",* – падкрэсліў Арлоў. На яго думку, гэта стаўленне людзей не "беларусацэнтрычных", а "расійскацэнтрычных".

*"Цяпер гэтыя погляды расійскай гістарыяграфіі транслююцца так званымі беларускімі гісторыкамі, якія, на маю думку, проста выконваюць заказ, знаходзячыся ў расійскацэнтрычным полі",* – заявіў пісьменнік.

*Паводле БелаПАН.*



# Уладзімір Ліўшыц



## Горацкія сябры Янкі Купалы



*( Праця г. Пачатак у № 15 )*

Гарэцкі некаторы час быў выдаўцом, рэдактарам газеты «Беларускія ведамасці», якая выходзіла ў Вільні. У кастрычніку 1920 года ў ёй быў змешчаны артыкул «Знакаміты сучасны паэт Янка Купала». Подпісу пад артыкулам не было, але літаратуразнаўцы лічаць, што аўтарам публікацыі быў менавіта Максім Гарэцкі.

У канцы 1923 года Гарэцкі з сям'ёй вяртаецца ў Беларусь. Працуе і жыве ў Мінску, дзе часта сустракаецца з Янкам Купалам. У 1925 годзе ён разам з паэтам быў абраны членам Інстытута беларускай культуры.

28 мая 1925 года адбылося ўрачыстае пасяджэнне літаратурнай секцыі Інстытута беларускай культуры (цяпер – Акадэмія навук Беларусі), прысвечанае 20-годдзю літаратурнай дзейнасці Я.Купалы. Газета «Савецкая Беларусь» паведамляла: *«...Добра і падрабязна асвятліў ролю Янкі Купалы ў беларускім нацыянальна-культурным Адраджэнні пісьменнік Максім Гарэцкі».*

А калі ў 1925 годзе выйшаў першы том збору твораў паэта, Янка Купала падараваў гэты том з аўтографам *"Дарагому Максіму Гарэцкаму з жонкай і дзеткамі на добры успамін. Янка Купала. Менск. 15.УІІ.1925".*

З 1926 года М.Гарэцкі працуе ў Горках загадчыкам кафедры беларусазнаўства акадэміі. І вось праз два гады зноў адбылася сустрэча Максіма Іванавіча і Янкі Купалы.

Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч распавядае: «Запрасілі з Мінску на сустрэчу з выкладчыкамі і студэнтамі пісьменнікаў. Гарэцкі быў ініцыятарам запросін і галоўным арганізатарам сустрэчы. Прыехала вялікая група пісьменнікаў, афіцыйна – на чале з Цішкам Гартным (Змітром Жылуновічам). І быў Янка Купала



Сядзяць злева направа: *Якуб Колас, Цішка Гартны, Янка Купала, Міхась Чарот, Васіль Сташэўскі.*
Стаяць: *Алесь Ляжневіч, Міхайла Грамыка, Уладзіслаў Галубок, Міхась Зарэцкі, Анатоль Вольны, Алесь Дудар, Алесь Гурло.*

ў складзе гэтай пісьменніцкай брыгады. Студэнты, выкладчыкі з вялікім хваляваннем чакалі дарагіх гасцей, рыхтаваліся да сустрэчы. І ўсё-такі яна не адбылася, яна сарвалася.

Юры Паўлавіч Гаўрук тады, як і Максім Іванавіч, працаваў у акадэміі дацэнтам і быў непасрэдным сведкам таго, што здарылася. Дык вось, тая сустрэча сарвалася па віне капрызнасці Цішкі Гартнага. Той яшчэ тады моцна пачуваўся не толькі як літаратар, але, відаць, і як відны дзяржаўны і грамадскі дзеяч. Нечага яму не хапіла ў той сітуацыі, той жа шляхетнасці, відаць, і яго капрызы сталі прычынай таго, што сустрэча не адбылася. На Гартнага мог паўплываць толькі Янка Купала.

І Максім Іванавіч вельмі прасіў Купалу паўздзейнічаць на Гартнага, каб параўладзіць сітуацыю і каб сустрэча адбылася. Не ведаю, з якіх меркаванняў, так сказаў Ю.П.Гаўрук, Купала не стаў дыктаваць сваю волю Гартнаму. З тым і паехалі, і вярнуліся ў Мінск пісьменнікі.

І назаўтра Гарэцкі адаслаў Купалу падпісаныя яму кнігі. Купалаўскія кнігі. У знак абурэння і пратэсту.

Ну вось так – нават Купалу ён не дараваў тое, што, на яго думку, нельга было дараваць: абразу чытачоў, шчырых людскіх сэрцаў.

*( П р а ц я г  б у д з е )*

# Кастусь Северинец

## Подари мне сирень...

### Новые стихи

*ВИШЕН ДЫМ*

Дни растаяли, как дым
Над вишнёвым садом.
Вновь не буду молодым?
Впрочем, и не надо.

Я отдам печаль годам,
Мне она не надо.
Лишь пеньки то тут, то там
От былого сада.

На пенёчке посижу,
Погрущу о вишнях,
Злого слова не скажу –
Вышло так, как вышло.

Предзакатных лет дымок
С горечью лампадной.



Я не сделал всё, что мог?
Может, так и надо.

Про судьбу не ворожу:
Был ли, не был лишним?
...На пенёчке посижу,
Погрущу о вишнях.

*ПОДАРИ МНЕ СИРЕНЬ*

Подари мне сирень.
И других мне подарков
не надо.
Просто так.
В самый будничный день.
Подари мне сирень.
Но не веточку из палисада,
А улыбки твоей
Подари мне сирень.

Подари мне сирень –
Аромат из весеннего сада.
Промелькнув,
Как из прошлого тень.
Подари мне сирень
Тёплой нежностью
светлого взгляда.
Из несбывшихся снов
Подари мне сирень.



Подари мне сирень.
Пусть меня согревает отрада.
Подари,
Если сердцу не лень.
Подари мне сирень,
Но не ту, что цветёт
за оградой
Невоскресшей любви.
Подари мне сирень.

Подари мне сирень.
Ну и что,
что теперь мы не рядом?
Той весной
Мою душу задень.
Подари мне сирень.
И иных мне подарков
не надо.
Если помнишь меня,
Подари мне сирень.

*ФОТО*

Это старенькое фото,
Где размытые черты...
Неужели эти кто-то
Были раньше я и ты?

Это старенькое фото,
Где глаза покрыла мгла...
У тебя – свои заботы,
У меня – свои дела.

Это старенькое фото –
Не твоё и не моё.
Это мне подкинул кто-то
Чёрно-белое враньё.

*НЕЧЕТ*

Тебе я – не чета.
Читал – не дочитал.
В твоих объятьях таял –
не растаял.
Жаль, родинки твои,
Которые считал,
Я больше никогда
не посчитаю.

Тебе я – не чета.
Оплачены счета.
Вот россыпь с неба звёзд –
бери любую!
Жаль, губ твоих пожар,
Что обжигал в мечтах,
Я больше никогда
не поцелую.

Тебе я – не чета.
Не тот.
И ты не та.
И по-другому быть уже
не может.
Жаль, нежных слов моих
Святая простота
Покой твоей души
не потревожит...

*АЗБУКА МОРЗЕ*



Вот живу...
В кредит.
В рассрочку.
В оболочке – хлам, старьё.
А под этой оболочкой
Бьётся, как тире и точки,
Сердце бедное моё...

# Конкурс

ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" і Беларускі ПЭН-цэнтр з 1 студзеня 2013 года абвяшчаюць пра пачатак прыёму твораў на конкурс маладых пісьменнікаў "Экслібрыс" імя Янкі Маўра. У 2013 годзе споўніцца 130 га-



доў з дня нараджэння вядомага дзіцячага пісьменніка. А таму сёлета тэмай конкурсу абраная дзіцячая літаратура.

Да разгляду конкурснага журы будуць прымацца творы для дзяцей у наступных жанрах: проза (апавяданні, казкі і г.д.), паэзія (вершы, байкі і г.д.), п'есы, тэксты песень, коміксы, пераклады замежных дзіцячых твораў на беларускую мову.

Асаблівая ўвага будзе нададзеная:

- творам для падлеткаў;
- творам, у якіх апісаны цікавы сучасны вобраз героя/ гераіні;
- творам з надзвычай арыгінальным сюжэтам;
- творам у незвычайных для беларускай літаратуры жанрах: комікс, графічны раман і г.д.;
- творам, якія пераасэнсоўваюць сюжэты і герояў класічных дзіцячых твораў.

*Узяць удзел у конкурсе могуць пісьменнікі, літаратурныя крытыкі і перакладчыкі не старэйшыя за 40 гадоў.*

**ЖУРЫ КОНКУРСУ:**

Алена Масла;
Людміла Рублеўская;
Алесь Пашкевіч;
Пятро Васючэнка;
Серж Мінскевіч.

Тэксты на конкурс можна дасылаць да 1 жніўня 2013 на адрас sbp@lit-bel.org, пазначыўшы тэмай ліста "Конкурс". У лісце мусіць быць інфармацыя пра імя, прозвішча, дату нараджэння ўдзельнікаў, іх кантактныя нумары тэлефонаў і e-mail.

Па выніках літаратурнага конкурсу пройдзе вечарына ўзнагароджання, творы пераможцаў будуць надрукаваныя ў часопісе "Дзеяслоў" і газеце "Літаратурная Беларусь", а іх саміх запросяць на літаратурны пленэр. Найлепшыя творы, дасланыя на конкурс, могуць выйсці асобнай кнігай.

"ДНЯПРОЎСКАЯ СТРОМА"
Літаратурна-мастацкі і інфармацыйны бюлетэнь Магілёўскага абласнога аддзялення ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў".
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Адказны за выпуск - Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі, вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: mikolabryl@gmail.com

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падрыхтавана да друку *31.01.2013 г.. 21.00.*
Наклад 50 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.

